Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Напрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пятыту ў 1 шп.

№. 9. Вільня, Серада, 16-га сьнежня 1925 г. Год I.



## На пераломе.

Сучасная Польшча—Польшча, пабудаваная на прынцыпе здаваленьня інтарэсаў перад усім абшарнікаў і мястовае буржуазіі, — гэтая Польшча апынулася на пераломе.

Чытаючы прамовы міністра фінансаў і цэлага раду паслоў, мы бачым зусім выразнае прызнаньне, што *польская буржуазія*, якая датарнавала ўсё польскае дзяржаўнае будаўніцтва выключна да сваіх клясавых патрэб і інтарэсаў,— аканчальна і беспаваротна *збанкрутавала.*

Збанкрутавала, бо-ж інакш і не магло стацца ў гаспадарстве, у якім палова зьбіраных з народу грошы йшла і йдзе на ўтрыманьне вялізарнае арміі (33% усіх даходаў!) і паліцыі (11%), патрэбных перад усім дзеля абароны „стану валаданьня“ гэтае буржуазіі ад „ворагаў унутраных і вонкавых“...

І на гэтым груньце ў сучаснай Польшчы, як сказаў пасол Рак-Міхайлоўскі з соймавае трыбуны, вытварыўся сярод пануючых клясаў пагляд: „што схапіў, то—тваё!“ А раз зьявіўся ў польскай буржуазіі гэткі пагляд, значыцца яна ўжо бяссільна ратаваць сваю дзяржаву ад банкруцтва, бяссільна неяк зьмяніць утварыўшаеся бязвыхаднае палажэньне.

Што-ж будзе далей? Якім шляхам пойдзе далейшае жыцьцё Польскае дзяржавы, калі зьдзейсьняцца панурыя гораскопы міністра Зьдзеховскага?

Ня будзем загадваць наперад ходу выпадкаў. Але *агульны кірунак* іх можна ўжо прадбачыць, не рызыкуючы далёка адхіліцца ад праўды.

Нехта-ж у Польшчы мусіць быць гаспадаром і кіраваць яе дзяржаўным жыцьцём. І на зьмену тэй польскай буржуазіі, якая, ня гледзячы на падтрыманьне, дадзенае ей польскімі „сацыялістамі“, так страшэнна зруйнавала і дзяржаву, і працоўныя масы і—ўрэшце—сябе, мусіць выступіць нейкая *другая сіла*—сіла творчая, здольная да вялікіх высілкаў і ахвяр.

Дзе-ж гэткая сіла?

Разглядаючыся ў сацыяльнай будоўлі Польшчы, мы бачым толькі адну сілу, на якую Польшча йшчэ можа спадзявацца: гэта—*сіла працоўных*. Ня сіла вітасаўскіх сялян-кулакоў, якія йшлі і йдуць у хвасьце польскае буржуазіі, падбіраючы крошкі ад пажыранай ею нацыянальнай маемасьці,—а сіла тых рабачаяў вёскі і места, якія аддалі на „ратаваньне“ буржуазіяй Польскае дзяржавы свой апошні крывава запрацаваны грош і... не атрымалі за гэта ад дзяржавы абсалютна нічога.....

Аздараўленьне фінансавага і гаспадарчага жыцьця Польшчы залежыць перад усім ад аздараўленьня яе палітычнага жыцьця. І гэтае аздараўленьне можа зрабіць ізноў-жа не буржуазія, ад панаваньня якое і пайшлі ўсе хваробы Польшчы, а толькі і выключна тая сіла, якая зусім *не зацікаўлена ў паняволеньні цэлых многаміліённых народаў*, падлягаючых цяпер Польшчы: *тая-ж сіла працоўных,* дагэтуль адпіханых буржуазіяй „на задні двор“.

Вось, выступленьня гэтае сілы на арэну польскага дзяржаўнага жыцьця і трэба спадзявацца, калі верыць, што сучасны катастрафічны стан мае быць зьменены *ўнутранымі сіламі Польшчы.* І мы, беларусы, можам спадзявацца—разам з усімі „меншасьцямі“—на нейкі пералом у нашым жыцьці *толькі і выключна ў сувязі з гэтым выступленьнем.*

## Новы „плебісцыт“.

Калі ген. Жэліговскі склікаў так-званы „Віленскі Сойм“, які быццам-то меўся „свабодна“ (толькі пад націскам акупацыйных войск!) выказацца ў наперад прадугледжаным духу—за далучэньне Віленшчыны да Польшчы „bez zastrzeżeń“,—беларускія масы—на кліч Беларускага Нацыянальнага Камітэту—дружна адмовіліся йсьці на выбары ў гэны „Сойм“ і гэтым выявілі адносіны свае да прынцыповага пытаньня аб долі гэтае часткі нашае Бацькаўшчыны. Не памагло ані выпісываньне аж з Парыжу — на кошт польскага генеральнага штабу!—„бѣлорусса“ Ладнова, ані значныя сумы, дадзеныя „на пропой душы“ Аляксюкам і Павлюкевічам: народ наш з агідай адвярнуўся ад тых „беларускіх“ сьпіскаў кандыдатаў у „Сойм“, якія маніліся паказаць, быццам беларусы прыймалі ўчасьце ў выбарах, — і ў выніку гэтага ніводзін з гэных „штрэйкбрэхераў“ не папаў у „Сойм“.

Гэта быў першы доказ сьвядомасьці беларускае вясковае масы, збуджанае з векавога сну ваеннымі і рэвалюцыйнымі падзеямі. А цераз два гады, калі той-жа Беларускі Нацыянальны Камітэт кінуў кліч: ісьці на выбары ў варшаўскі Сойм! — народ гэты кліч падхапіў і бліскучай перамогай у выбарнай барацьбе другі раз даў знак свайго істнаваньня і сваей перавагі на землях Заходняе Беларусі,—ня гледзячы на ўсе хітрыя статыстыкі польскага ўраду, рысаваўшыя фантастычны абраз нацыянальных адносінаў у краю і „польскае большасьці“ тут.

У пачатку сёлетняга году адбыўся ў нас яшчэ адзін „плебісцыт“ у Заходняй Беларусі: гэта—„плебісцыт школьны“. І тут ізноў, ня гледзячы на ўсё перашкоды з боку гміннага „начальства“ і іншых агентаў улады, ня гледзячы на шалёную контр-агітацыю польскіх арганізацыяў і ксяндзоў-палякоў, беларусы йшчэ раз даказалі сваю волю захаваць сваю нацыянальную самастойнасьць, падаўшы 15,000 дэклярацыяў на 412 беларускіх школ.

Перад намі цяпер стаіць яшчэ адзін „плебісцыт“, які, аднак, датычыцца ня ўсей Заходняй Беларусі, а толькі часткі яе: места Вільні, паветаў Ашмянскага, Сьвянцянскага, Віленска-Троцкага і частак былага нэйтральнага пасу, што ўваходзяць цяпер у склад Браслаўскага, Лідзкага, Аўгустоўскага, Горадзенскага і Сувальскага паветаў. Мы гаворым аб тэй **агульнай перапісі**, якую польскі ўрад мае правясьці на гэтым абшары 1 студзеня 1926 году.

Польскі ўрад не здарма ажно пяць гадоў адкладаў у Віленшчыне гэтую перапісь, зробленую ўжо даўно на ўсей тэрыторыі Польскае дзяржавы: трэба было перш „замацаваць польскі характар“ гэтага абшару, трэба было заліць яго насыланымі з этнаграфічнае Польшчы тысячамі польскіх урадоўцаў, засяліць асаднікамі-палякамі, зьнішчыць усе беларускія школы і пазакладаць усюды польскія, ды толькі тады прыступіць да „выясьненьня“ нацыянальнага складу насяленьня гэтай „чыста польскай“ зямлі. Трэба было перш стэрорызаваць беларускую большасьць тутэйшага насяленьня, каб атрымаць пэўнасьць, што вынікі перапісі пацьвердзяць усе гучныя заявы аб „польскасьці“ Віленшчыны.....

Але і гэтыя спадзяваньні бадай ці ня скончацца так, як скончыліся спадзяваньні аўтараў соймавага выбарнага закону, што беларусаў у Сойме ня будзе, ды спадзяваньні паноў Тугутта і Грабскага, што беларусы не патрапяць дамагацца роднае школы на падставе „языковых законаў“. Бо-ж за гэтыя пяць гадоў, як польская ўлада тутака ўмацавалася, **сьвядомасьць беларускае масы не паменшала, а, наадварот, значна ўзрасла.** Бо-ж і „школьны плебісцыт“ даў вельмі памысныя для беларусаў вынікі іменна на гэтым абшары, на якім мае адбывацца перапісь.

Каб-жа гэта сталася, усё беларусы ў часе сьпісу павінны **цьвёрда стаяць на сваім і пільнаваць, каб іх запісывалі беларусамі.** Усе павінны **сьмела і цьвёрда заяўляць аб сваей прыналежнасьці да вялізарнае многаміліённае працоўнае сям'і беларусаў**, і тады гэты новы „плебісцыт“ дасьць нам новую перамогу.

І перамогу—ня толькі маральную: бо вынікі перапісі мецімуць і **вялікае практычнае значэньне**—ці то пры ўстанаўленьні права паасобных гмінаў на беларускую школу, ці права на ўжываньне беларускае мовы ў нарадах і дзелаводзтве самаўрадаў і г. д.

Няхай-жа кожын сьвядомы беларус асьведамляе ўсіх сваіх знаёмых у роднай і суседніх вёсках, няхай тлумачыць нашае **права трэбаваць правільнага запісываньня нашае нацыянальнасьці і наш абавязак перад Бацькаўшчынай і перад усім нашым народам усюды з гордасьцяй заяўляць, што мы—беларусы!**

**Ів. Мялешка.**

# Беларусы! Пасьпяшайце падаць школьныя дэкларацыі да 31 сьнежня!

6) завязаньня гаспадарчага і палітычнага саюзу з СССР.

### Дэманстрацыя проці мін. Грабскага.

У самым канцы паседжаньня Сойму 12-га сьнежня пан Маршалак паставіў на парадак дня ўжо тры разы адкладаны разгляд сьпешнае прапазіцыі Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, Беларускага Пасольскага Клюбу, Украінскага Клюбу, Жыдоўскага Кола і Нямецкага Клюбу—у справе незаконнага цыркуляру міністра асьветы Станіслава Грабскага, які загадаў, каб ува ўсіх прыватных гімназіях з няпольскай выкладовай мовай выкладаліся папольску, ня толькі прадметы, датычныя Польшчы, але і агульная гісторыя і геаграфія.

Ад імя падпісаўшых прапазіцыю клюбаў выступіў з прамовай украінец Хруцкі, які даводзіў, што, згодна з Вэрсальскім Трактатам, польскі ўрад можа прымушаць да выкладаньня польскае мовы **толькі ў пачатковых школах, утрымліваных ці падтрымліваных за дзяржаўныя грошы**, і закон з 31-га ліпня 1924 года, які пашырае гэтае права ўраду і на няпольскія гімназіі, пярэчыць Вэрсалькаму Трактату. Прамоўца трэбаваў, каб урад узяў гэны цыркуляр назад.

Калі пасьля прамовы Хруцкага выступіў на трыбуну міністар Грабскі, на лавах меншасьцяў падняляся **цэлая бура**. Пачалі падаць дужа вострыя словы па адрасу п. Грабскага, ды ўзьняўся такі шум і стуканьне ў пульпіты, што міністар доўгі час ня мог нічога сказаць. Толькі з вялікім трудом маршалку ўдалося крыху суцішыць паслоў меншасьцяў і дапусьціць да голасу міністра.

Сойм прыняў сьпешнасьць прапазіцыі, але яе на пленуме не разглядаў, а здаў у камісію. Ну, там дык яна доўга будзе „марынавацца"!..

## Аб чым пішуць.

### Цікавая справа.

Польскі тыднёвік „Wolność" зьмяшчае яшчэ раз тое пісьмо ў рэдакцыю нейкага свайго чытача, якое выклікала калісьці ня толькі канфіскацыю, але й зачыненьне часопісі пад назовам „Walka". Зьмяшчае — дзеля таго, што — суд „умарыў" справу. Ліст гэты зьявіўся водгукам нарысаў рэдактара Венявы Длушешэвскага—аб катаваньні ў царскіх засьценках.

Вось у скароце гэты ліст, цікавы для нас затым, што датычыць нашых многапакутных „крэсаў":

„Шкада, што п. Рэдактар друкуе свае нарысы ў газэце: хай-бы яны лепш аставаліся для пазьнейшых мэмуараў. Бо гэтыя нарысы (аб паліцэйскіх катаваньнях) зьяўляюцца цяпер... найлепшай школай і ўзорам для... сучаснай польскай паліцыі—на так-званых „усходніх крэсах". Ахвярамі гэтай паліцыі зьяўляецца сучаснае вучыцельства і школьніцтва беларускае і ўкраінскае. Загляніце толькі ў інтэрпэляцыі іх пасольскіх клюбаў. Такіх герояў, якіх рысуе п. Рэдактар, там—легіёны. І гэткія-ж катаваньні і мукі знамяніта тасуюцца цяпер да беларусаў і ўкраінцаў—таксама, як калісьці ў часы царату практыкаваліся маскалямі ў адносінах да палякоў. Дык выходзіць так, як быццам апісываньне таго, што рабілася царскімі жандарамі тады, апраўдывае тое, што робіцца цяпер польскімі. Гэта—непажадана. Бо-ж польская паліцыя ня толькі ахвотна бярэ прыклад з усіх тых „кветак" і „штучак", якія тасавалі царскія жандары, але правышае іх сваей памысловасьцяй—у стасунку да беларусаў і ўкраінцаў на „ўсходніх крэсах". Што гэта ўсё—праўда, гэтага ня трэба тут даводзіць ані фактамі, ані прозьвішчамі: факты—у пасольскіх інтэрпэляцыях і пісьменных скаргах".

Да гэтага лісту, не падлягаючага ўжо больш канфіскацыі, ня маем дадаць нічога. Можам толькі заявіць, што дрэнную ўслугу робіць польскаму грамадзянству і польскай дзяржаве польская прэса, калі абсалютна замаўчывае страшэнныя факты, падаваныя „да агульнага ведама з публічнай трыбуны парляманту!.. Што-ж—польская прэса—дачка польскага грамадзянства, якое ня хоча ведаць праўды аб тым, што ад ягонага імя робіцца на „крэсах". Дык і можа пакуль-што „ня ведаць" гэтай праўды, пакуль яна... ня вырасьце такой вялікай, што яе ўжо не схаваеш!..

### Асаблівы „герой".

Орган „доктара" Павлюкевіча „Грам. Голас" у апошнім сваім нумары ўспамінае аб слуцкім паўстаньні 1920 году, у якім сам Павлюкевіч, як ведама, увесь час змагаўся з беларускімі нацыянальнымі лёзунгамі і стараўся пакіраваць яго да „единой недѣлимой Россіи"—пад „высокую руку" пана Савінкова. Успамінае аб гэным паўстанчым руху ў сувязі з прысудам Вярхоўнага Суда БСРР у Менску, якім засуджаны на пяць гадоў вастрогу дывэрсант Гаўрыловіч (у Польшчы, як ведама, за такія паступкі чакае куля ў лоб), былы ўчасьнік слуцкага паўстаньня.

Аб „ідэйным" абліччы гэтага „паўстанца" газэта падае з „Звезды" гэткія інфармацыі:

„На прошлым тыдні выязная сэсія Вярхоўнага Суда Рэспублікі разглядала справу двух белагвардзейцаў—Гаўрыловіча і Сяргеенка. Справа гэтая прадстаўляецца гэтак: Пачынаючы ад 1918 г. абвінавачаны Гаўрыловіч вёў актыўную барацьбу проці Савецкае ўлады. Уступіўшы дабравольцам у армію Краснова, ён за вайсковыя „подвігі" атрымаў чын падпалкоўніка. У 1920 годзе, калі белая армія была разьбіта, Гаўрыловіч у ліку іншых трапіў да нас у палон. Праз нейкі час ён паступае ў чырвоную армію і пасылаецца на заходні (польскі) фронт. У часе адступленьня чырвонай арміі, Гаўрыловіч застаўся ў вёсцы Дзюдзева і, пасьля заняцьця гэтай мяйсцовасьці палякамі, прыняў актыўнае ўчасьце ў арганізацыі беларускай брыгады, якая змагалася проці СССР у інтарэсах Польшчы. Брыгада гэтая рабіла налёты на тэрыторыю Беларусі, расстрэлівала камуністаў і займалася грабежствамі. Калі бандыцкая брыгада была зьліквідавана, Гаўрыловіч паехаў у Варшаву, дзе пазнаёміўся з Булак-Балаховічам і Савінкавым. Даведаўшыся аб прошласьці падсудзімага і яго „арганізатарскай" здольнасьці, тыя запрапанавалі яму сфармаваць бандыцкі атрад у районе Клецка для налётаў. Гаўрыловіч прапазіцыю з прыемнасьцю прыняў. Атрымаўшы некалькі разоў значныя грашовыя сумы на ўтрыманьне бандыцкага атрада, Гаўрыловіч у 1923 годзе нелегальна перайшоў граніцу і прыбыў у Савецкую Беларусь. Аднак-жа, праявіць сябе ён не паспеў, бо быў затрыманы нашымі пагранічнікамі. Пасьля разгляду ўсіх матар'ялаў, выязная сэсія прыгаварыла Гаўрыловіча да пазбаўленьня свабоды на 5 гадоў са „строгай ізоляцыяй".

Даўшы гэтую пікантную спраўку аб характары „працы" Гаўрыловіча, газэта Павлюкевіча далей апісывае паўстаньне—ведама, з пункту гледжаньня... польскае дэфэнзывы! Ня дзіва, што ў гэтым апісаньні прапушчаны адзін вельмі характэрны мамэнт, які нам трэба памятаць. Іменна: калі павадыры паўстаньня зьвярнуліся да пана Пілсудскага і ягоных агентаў з просьбай аб аружжа, дык з польскіх вайсковых складаў паўстанцам выдалі нешта каля **пяцісот вінтовак**, з якіх.... **трыста аказаліся папсаванымі і няздатнымі да ўжытку!..**

## Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Злоты спадае.

Пасьля раптоўнага спадку злотага, які ў пачатку сьнежня даляцеў нават да 13 за даляр, і гэтак патаньнеў амаль не ўтрая (— бо пачатны курс яго быў 5.18 за даляр!), злоты неяк аправіўся і дайшоў да курсу 7—8 злоты за даляр. А пасьля ізноў пачаў каціцца ўніз,—цяпер ужо павольна, але паступова. Курс злотага ўжо каля 10 за даляр—спаў удвая проці яго „залатой роўні"...

### Валёрызацыя падаткаў.

Урад апрацоўвае закон аб так-званай валёрызацыі падаткаў. Гэта значыць, што, калі злоты будзе спадаць далей, дык падаткі будуць падвышацца ў такой меры, каб скарб ня страціў на спадку валюты...

Акурат так было, як усе памятаюць, за часоў нябожчыцы—маркі!..

З гэтага відаць, што ўрад сам ужо ня верыць у магчымасьць усталеньня валюты, а клапоціцца толькі ўжо аб тым, каб яе спадак, руйнуючы далей насяленьне, ня быў толькі стратным для яго, для скарбу...

Адначасна, здаецца, ужо выданы загад мясцовым уладам, што падаткі з сялян „можна" браць хлебам... Нашыя паслы паведамляюць нас, што значыць гэты загад і гэтае „можна"... Загад мае на мэце папросту адбіраць у згалелага сялянства на падаткі нават апошняе яго дабро—збожжа...

## Заграніцай.

### Нарады Рады Лігі Народаў.

На апошнім паседжаньні Рады Лігі Народаў зацьверджана апрацаваная мін. Бэнэшам праграма складу і працы міжнародавай канфэрэнцыі ў справе разбраеньня. Аб гэтую праграму амаль не пасварыліся ізноў Англія і Францыя, маючыя супярэчныя інтарэсы ў кожнай справе. Але лоўкі Бэнэш ізноў, як бывала, пагадзіў „вялікіх".

Камісія, маючая аканчальна апрацаваць праграму Канфэрэнцыі, зьбярэцца 15 лютага 1926 г.

Да ўчасьця ў камісіі, — апрача дзяржаваў, прадстаўленых у Радзе Лігі,—будуць запрошаны і іншыя важнейшыя дзяржавы, а іменна: СССР, Амэрыка, Нямеччына, Югаславія, Польшча, Румынія, Галяндыя і Баўгарыя.

### Рашучая заява Турцыі ў справе Мосулю.

Турэцкі міністар замежных спраў рашуча заявіў, што Турцыя ня мае нічога проці пасрэдніцтва Лігі Народаў, але ніколі ня згодзіцца на нявыгадны для Турцыі яе раз'емчы суд.

### Магчымасьць француска-расейскага паразуменьня.

Новы пасол СССР у Парыжу, Раковскі, заявіў, што Чычэрын, едучы назад з курацыі ў Ніццы праз Парыж, мае даўжэй затрымацца там дзеля паразуменьня з Брыянам. А пакуль-што ён, Раковскі, падрыхтуе грунт для гэтага паразуменьня, прадаўжаючы нарады ў справе царскіх даўгоў, распачатыя Красіным.

### Урадавы крызіс у Нямеччыне.

Сацыялістычная прэса піша, што ўрадовы крызіс у Нямеччыне неяк стануў на мейсцы і, відаць, ня будзе зьліквідаваны да сьвятаў

Фактычна дагэтуль яшчэ не распачаты нарады ў справе стварэньня новага габінэту. І — неяк у Нямеччыне ўсё ідзе сваім парадкам!...

### Перагаворы аб міры з Абд-Эль-Крымам.

Француская прэса падае вестку, быццам Абд-Эль-Крым нарэшце даў фармальныя паўнамоцтвы, як свайму прадстаўніку, капітану Кунінгу—дзеля вядзеньня перагавораў аб міры з французамі. У зьвязку з гэтымі перагаворамі адбылася нарада галоўнага камісара францускага Марокка з прэм'ерам Брыянам.

## Хроніка.

**Танная прадажа беларускае кніжкі прадоўжана!** Шчыра трэба прывітаць пастанову Беларускае Кнігарні ў Вільні прадоўжыць танную прадажу беларускіх кніжак да 5 га студзеня 1926 году. Справа ў тым, што шмат у якіх мясцох вестка аб двух „танных тыднях" дайшла дужа позна — часта, як нас інфармуюць нашы чытачы, з прычыны „прападаньня" нашае часопісі на поштах. Спадзяемся, што прадоўжаньне таннае прадажы дасьць магчымасьць усім беларусам з самых глухіх і далёкіх куткоў скарыстаць з магчымасьці на льготных варунках прыдбаць сабе родную кніжку!..

**Пісьмы, адрэсаваныя пабеларуску.** Паводле распараджэньня міністра промыслу і гандлю з дня 20 сьнежня 1924 г. пазволена ўжываць мовы некаторых нацыянальных меншасьцяў у паштоватэлеграфічных зносінах.

З уваходам у жыцьцё гэтага распараджэньня, перасылкі паштовыя, у абароце на абшары Усходніх зямель, абнятых вядомымі языковымі ўставамі, могуць быць адрэсаванымі ў мове беларускай.

Кожны беларус павінен карыстацца гэтым правам і пішучы, пісьмы, а гэтак сама, пасылаючы тэлеграмы, мусіць ужываць сваей роднай мовы.

**З жыцьця Студэнтаў-беларусаў.** Урад Бел. Студ. Саюзу пастанавіў арганізаваць цыкль сямейна-каляжэнскіх вечарынак-рэфэратаў, вядучы гэткім чынам асьветную і ідэйную працу сярод сваіх сяброў.

Цыкль гэты распачаўся ў нядзелю 6.XII—25. рэфэратам кал. М. Марцінчыка на тэму „Дзьве Душы", які зьвярнуў увагу на двудушнасьць сярод студ.-беларусаў наагул, а пераважна сяброў Беларуск. Студ. Саюзу, на прычыны гэтага зьявішча і шкоды, якія яно робіць, ды заклікаў да змаганьня з ім у наш асабліва цяжкі час.

Пасьля рэфэрату адбылася каляжэнская гарбатка.

**Зьезд Літ. Т-ва Асьветы „Rytas".** У нядзелю дня 21 лістапада с. г. у Вільні адбыўся гадавы зьезд Т-ва „Rytas", на які прыехала многа прадстаўнікоў з правінцыі. Сяляне літоўскія інфармавалі зьезд, у якіх трудных варунках прыходзіцца працаваць на правінцыі. У канцы зьезд прыняў нескалькі рэзалюцыяў, з якіх найважнейшую падаём, паводле справаздачы „Krynicy".

Дня 29. XI. 1925 г. гадавы зьезд Літоўскага Т-ва Асьветы „Rytas", заслухаўшы справаздачу ўраду і прадстаўнікоў вёскі ў справе палажэньня асьветы ў Віленшчыне, сцьвярджае: што ўлада ў мясцовасьцях, заселеных праз літоўцаў адчыняе выключна толькі польскія школы; што не адчыняе літоўскіх школаў навет у тых мясцовасьцях, дзе насяленьне літоўскае летась рашуча дамагалася гэтага, пры помачы дэкларацыяў; што ў арганізаваньні школ праз насяленьне робяцца ўсялякія перашкоды, як напр. прадстаўнікі ўлады нагаварываюць насяленьне, каб паміма волі, выражанай у дэкларацыях, адказваліся мець школу літоўскую; што без паважных прычын улада не

дае Т-ву „Rytas“ канцэсыі на школы, або адцягвае выпаўненьне фармальнасьцяў часам аж да Каляд; што дзеля ўсялякіх пратэкстаў не зацьвярджаюць літоўскіх вучыцялёў, маючых навуковы цэнз; што дзяцей літоўскіх змушаюць хадзіць у польскія школы, дзе застаўляюць вучыцца навет і рэлігіі папольску.

Зьезд катэгарычна пратэстуе проці патаптаньня правоў, прызнаных літоўцам праз Канстытуцыю і дзяржаўныя ўстановы і прызывае ўрад Т-ва „Rytas“ і вясковае насяленьне рашуча бараніць правоў літоўскае школы і ўжыць усіх стараньняў, каб літоўскім школам сярэднім і пачаткавым былі прызнаны дзяржаўныя правы.

**Галадоўка ў Лукішскім вастрозе.** У Лукішскім вастрозе ў Вільні,—бадай адзіным мейсцы ў межах Польскае дзяржавы, дзе ніхто не пярэчыць, што беларусы тут прадстаўляюць ня меншасьць, а **большасьць!**—ад раніцы 11 сьнежня 150 палітычных вязьняў распачалі галадоўку.

Польская прэса ў асобе абшарніцкага „Słowa“ ўраз-жа пастаралася даць „належнае“, з паліцэйскага пункту гледжаньня, асьвятленьне гэтага здарэньня. На дзеле ж прычынай забастоўкі быў вельмі цяжкі для палітычных вязьняў вастрожны рэжым.

Галадуючыя выставілі гэткія дамаганьні: бачыцца з адведываючымі іх сваякамі бяз кратаў, паляпшэньне ежы, паляпшэньне гігіенічных варункаў (чыстая бялізна), прагулка 2 гадзіны ў дзень (замест аднае), дапушчэньне газэт і кніжак у вастрог і г. д.

Як бачым, дамаганьні зусім слушныя.

Галадоўка трывала тры дні. Аб выніках яе пакуль-што йшчэ мы нічога не даведаліся.

**Зьмяншэньне порцыяў хлеба жаўнерам.** „Kur. Wil.“ наказуе, што ў войску замест кілаграма хлеба ў дзень ($2\frac{1}{2}$ фунтаў) будуць выдаваць жаўнерам толькі па 2 фунты.

Тлумачыцца гэта тым, што быццам жаўнеры дастаюць гарачую страву ў такой меры, што гэнае паўфунта хлеба—зусім лішняе.

# Карэспандэнцыі.

## Аб школе.

(Вёска Паўлоўшчына. Ваўкавыскага пав., Ізабэлінскай гміны).

Калі я быў—„палякам“, а гэта было яшчэ ў 1906 г.,—была ў нашай вёсцы „руская“ школа, якая мясьцілася ў нашай хаце. Але на жаданьне ксяндза Ваўкавыскага — тады нашага парахвіяльнага—Касьцёлу адчыніць дзеля каталікоў, як „палякаў“, у тэй-жа вёсцы польскую школу, жыхары 10 каталіцкіх хатаў на гэта згадзілься і папрасілі мяне на вучыцеля. Я, жывучы ў той час польска-ксяндзоўскім розумам, так сама згадзіўся і адчыніў побач з рускай урадавай школай—польскую прыватную, ну і ведама-вучыў. А да гэтай школы, апроч моладзі — ня толькі хто, але нат і царскі сабака не забег, хоць аб гэтым, як школьныя, так і паліцэйскія ўлады ведалі.

Але зьмяніліся часы, зьмяніліся і людзі.

Замест дэспотычнай царскай Расеі настала ў нас „Дэмакратычная“ Польская Рэспубліка, а ў нашай вёсцы—замест „рускіх“ і „польскіх“ — жыхары аказаліся чыста беларускімі. І вось жа ў 1923 г. выпаўнілі мы ўсе формальнасьці адносна да беларускай школы, г. з. напісалі заяву (27/III), падпісаліся 63 бацькі, сьпісалі дзетак, выбралі паўнамоцнікаў, праз якіх і адаслалі ўсё гэтае Школьнаму Інспэктару ў Ваўкавыск, ды з радасьцяй чакалі свае роднае беларускае школы, хвалячы польскі „дэмакратызм“.

Прыйшла восень, пачаўся школьны час, а п. Інспэктар, ня толькі ня прыслаў нам вучыцеля — беларуса, але забраў і сваю вучыцельку. Ужо і Каляды нахапіліся, а дзеткі нашых вёсак дзе толькі не спаткаўшы і пытаюцца:

„Калі будзе ў нас свая школа?“

— Чакайце!

Чакаюць. А, калі паравалілася большая палавіна студзеня, бацькі, страціўшы надзею на ўрадавую школу, зьвяртаючыся да мяне, сталі прасіць, каб адчыніць хоць прыватную школу. Я ня мог і ня меў права адказацца. Напісаў 17/I 24 г. аб гэтым заяву п. Інспэктару, а, калі ўжо і самы дзеці выслалі да мяне сваіх 6-х дэлегатаў з просьбай, каб ісьці іх вучыць, я ня мог устрымацца ад сьлёзаў радасьці, узіраючыся на гэтых малышоў, і, ведаючы хуткую сьмерць свае школы,—пайшоў вучыць. Аж 22/I-25 г. прыйшла паліцыя, забрала ў дзяцей падручнікі і сшыткі, ды зачыніла школу.

А потым? — Потым „badania“, „dochodzenia“ і пратаколы па некалькі разоў.

Потым—справа апынулася ў пракурора, а ў канцы ўсе абаперлася аб суд, на які і маю ўжо павестку на 15/XII-25 г. у Ваўкавыск.

**Сьцяпан Шчыглінскі.**

## „Новая эпідэмія“.

(З Дзісеншчыны).

Усялякіх эпідэміяў нагледзеліся мы, а асабліва эпідэміяў крадзежы дзяржаўных грошаў. Гэты год дык вынятковы. Якую ня возьмеш польскую газэту, усялякіх напрамкаў, дык толькі спраўляйся чытаць пра крадзежы. Усе і ўсё пазьбіраліся: і банкі, і касы, і „urzędy“, і павятовыя інжэнеры, і пляменьнікі міністраў, і камісары, і інтэнданты (гэтыя як усягды) і Р. К. О. і ўрэшце сама багіня Θэміда з Вільні ў асобе пана Гурчына...

Дык і пачалі ўсе „не зяваць“. Не „празяваў“ і кіраўнік паштовай агенцыі на ст. Зябках „пан“ Саначынскі, які „спрэзэнтаваў“ скарбу, як выкрыла рэвізыя, 3400 злотых.

С. быў арыштаваны, але чамусьці яго звольнілі і гуляе на свабодзе. Вядома-ж гэтакі чалавек больш палітычна благанадзёжны, як той, што чытае беларускую газэту, ды складае дэклярацыю на беларускую школу, дык яго садзіць за краты ня варта, а тым больш, што амаль ня ўсе хворыя на гэтую „новую эпідэмію“ гуляюць на волі.

Як шэпчуць людзі, С. займаў яшчэ нейкую „пасаду“—мо' і маленькую, дык як, чалавек надта „запрацаваўшыся“, застаўся аддыхнуць на волі.

Вось быў-бы галас на ўвесь сьвет, каб гэтак пракраўся ўрадовец беларус (толькі пра ўрадоўца беларуса можна хіба сьніць!). Вось-бы дасталася ўсей беларускай нацыі! А як свой, ды ў сваіх — дык і крычаць і жаліцца няма каму.

**Зязюля.**

# З Радавае Беларусі.

## Беларускі мастацкі рух у Магілёве.

Асабліваю адзнакаю сёлетнага сьвяткаваньня кастрычнікавае Рэвалюцыі ў Магілёве была праява абуджэньня беларускага мастацтва.

Беларускія студыі сымфонічнага аркестру і хору ў радзе сваіх выступленьняў паказалі жыхарству Магілёва і суседніх вёсак усё хараство беларускае мэлёдыі ў песьні і ў музыцы.

Студыі здалі экзамен.

У хуткім часе, 22 лістапада б. г., пакажа свае дасягненьне й трэцяя студыя—драматычнаю, пастаноўкаю новае п'есы „Дукорскія муры“.

Пры пастаноўцы гэтае п'есы ўчасьце будуць браць і хор з аркестрам.

Заслуга студый грунтуецца на тым, што яны ня толькі пераймаюць гатовае, а, наадварот, самі апрацоўваюць і твораць беларускую песьню, музыку і драму на аснове народных матываў.

Сто сямнаццаць чалавек—учасьнікаў магілёўскіх студый — сваёю працаю пачэсна адзначылі ўгодкі і ідэю кастрычніка.

## Мастацтва на вёсцы.

Распаўсюджваюць мастацтва на вёсцы ў Радавай Беларусі народныя дамы і хаты-чытальні. Пры іх утвараюцца драматычныя гурткі і часта гурткі харавых сьпеваў і інш...

Асабліва стыхійна за рэвалюцыйны час вырасла цікавасьць да драматычнага мастацтва. У глушы, дзе раней маладымі тэатр лічыўся чым-та нязвычайным, як бы чартоўскім; цяпер на спэктаклі ўжо ходзяць зусім старыя людзі, а моладзь, дык тая і „удзельнічае“.

Перастаў быць дзівам для вясковае моладзі і раяль, што быў некалі толькі ў памешчычых сялібах. Вучыцца драматычнаму і музычнаму мастацтву вясковая моладзь, вучыцца праз сябе, без кіраўніцтва,—гарує.

Мы як бы зусім не прыкмячаем гэтых зьявішч. Там у глушы моц народнага пачуцьця шукае сабе выйсьця, нібы падземная крыніца, і, не находзячы, распыльваецца на тысячы дробных крынічак, што прасочваюцца скрозь таўшчыню зямлі і ўрэшце мяшаюцца з пылам і ўтвараюць гразь.

Ёсьць і мастакі—маляры, але тым няма зусім дзе выявіць сваіх здольнасьцяў, хоць бы ў той меры, як ахвотнікі драматычнага мастацтва. — У школах маляваньне не выкладаецца.

Датыркаючыся найболей стыхійнага ўздыму вёскі ў галіне мастацтва драматычнага, прыходзіцца падкрэсьліць, што яно нават у такім выглядзе, у якім яно там ёсьць, знаходзіць водгук у масе. Або, як пішуць з месц: становіцца часткаю вясковага побыту.

Гэта надзвычайны паказчык маральнага здароўя і пачуцьця.

# Юрыдычныя парады.

## Пакрыўджанаму.

1) *Запытаньне*: Мая жонка, не схацеўшы са мною жыць, пакінула мяне і праз 5 гадоў падала на суд, і суд прызудзіў ёй 500 злотых.

Ці магу я апраўдацца?

*Адказ*: Калі не прапусьцілі сроку на апэляцыю, дык можна падаць апэляцыйную скаргу, а калі срок прапушчаны, дык нічога ня зробіце.

2) *Запытаньне*: Мой дзед купіў 25 дз. зямлі ў 1912 г., а бацька купіў 3 дз. у 1920 г.

Дзед з бацькам памерлі, а маці прыняла прымака і хоча ўзяць частку зямлі.

Ці можа яна ўзяць частку зямлі, а калі можа, дык якую?

*Адказ*: Маці мае права на $\frac{1}{7}$ частку зямлі, а прымак ніякога права ня мае.

3) *Запытаньне*: Ці можна лавіць рыбу ў чужой рацэ, у каторай я больш як 15 гадоў лавіў і ніхто мне не забараняў?

*Адказ*: Права лавіць рыбу мець ня можаце, а што датычыцца сэрвітуту, дык трэба прыслаць больш даных: з пісьма нічога ня відаць.

## Падпішчыку № 2284.

*Запытаньне*: Я ўрадзіўся ў 1907 г., бацька мае 70 г., сястра вышла замуж.

Ці магу я атрымаць льготу?

*Адказ*: Можна мець толькі адсрочку.

## Падпішчыку № 1632.

*Запытаньне*: Нас шэсьць сыноў і бацька; зямлі маем 4 дз.

Ці можам купіць у абшарніка 20 дз. зямлі, каторая пад банкам, і атрымаць купчую?

*Адказ*: Калі „Urząd Ziemski“ дасьць дазвол, дык купчую можна зрабіць.

**Падпішчыку № 2282. — Да Беларусі.**

# Паштовая скрынка.

**Сумнаму Янцы.** Тое, што вы пішаце ў сваім вершу аб Павлюкевічу,—добра ведама ўсім. Займаць мейсца дзеля гэтага ў нашай газэце лічым лішнім.

# Усячына.

## Дом са шкла.

Адзін японскі бактэрыолёг пабудаваў для сябе асаблівы дом, які ўвесь складаецца са шкла. Вучоны гэты задаўся мэтай пабудаваць жыльлё, недаступнае для пылу, знадворнага паветра і бактэрый.

Будынак стаіць на сонечным мейсцы ля шпіталя ў гор. Іокагаме. Увесь будынак зроблены з шкляных цэгел, маючых 10 см. даўж. і 1 — 2 см. таўшчыні і трымаюцца, дзякуючы таму, што ўстаноўлены ў тонкія жалезныя рамкі. У цэлым доме няма ніводнага вакна. Сьвежае паветра ўсмактываецца на значнай адлегласьці ад дома і напампоўваецца па спэцыяльных трубах, пры чым па дарозе яно фільтруецца для ачышчэньня ад пылу і бактэрый, трапляючы на адшліфаваныя шклы, якія пакрытыя гліцарынаю. Выпусканьне паветра з будынку адбываецца скрозь невялікія дзіркі, зробленыя такім чынам, каб знадворнае паветра не магло цераз іх праходзіць.

Сонечныя праменьні і цяпло свабодна праходзяць у будынак з усіх бакоў, дзякуючы спэцыяльнай будове сьцен.

Кожная шкляная цэгла напоўнена рашчынаю солі. Гэтая рашчына затрымлівае сонечнае цяпло і, сабраўшы яго ўдзень, аддае яго ўвечары, награваючы пакоі. Гэты спосаб рэгуляваньня цяпла нагэтулькі добры, што даволі, каб у працягу дзьвюх гадзін сьвяціла сонца навет у халоднае надвор'е—і ў будынку будзе тэмпэратура, адпаведная для жыльля.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.** Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.